*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года    № 11(345)    25 САКАВІКА 1998 г.

## 80 гадоў БНР

Святкаванне 80-х угодкаў БНР у Менску 22 сакавіка пачалося з масавага шэсця ад плошчы Якуба Коласа і закончылася святочным мітынгам каля Опернага тэатра. У шэсці і мітынгу прыняло ўдзел больш 10 тысяч чалавек з усёй Беларусі.

На мітынгу, які вёў Юрась Беленькі было зачытана пасланне Зянона Пазняка, зварот Рады БНР. Выступілі відныя палітычныя і грамадскія дзеячы Беларусі: Лявон Баршчэўскі, Алесь Бяляцкі, Тацяна Ваніна, Анатоль Сідарэвіч, Павел Севярынец, Станіслаў Багданкевіч, Станіслаў Шушкевіч і іншыя. Мітынг прыняў рэзалюцыю.

Урачыстыя мерапрыемствы ідуць і ў іншых гарадах Беларусі. Угодкі БНР адзначылі Ліда, Смаргонь, Бабруйск, Барысаў і шмат іншых населеных пунктаў.

25 сакавіка ў Менску ў палацы культуры ААТ "Сукно" -- урачысты сход і святочны канцэрт.



Менск.22 сакавіка 1998 г.(*здымкі Уладзіміра Хрышчановіча*)

***Зварот Рады БНР да ўсіх беларусаў свету***

## Запалім свечку памяці надзеі

Суродзічы! Доўгі пакутлівы шлях да абвяшчэння 25 сакавіка 1918 года незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі адзначаны магіламі лепшых сыноў Беларусі. Іх светлая памяць у кожным беларускім сэрцы спалучаецца з надзеяй на лепшую будучыню нашай Бацькаўшчыны. Заклікаем усіх, каму дарагія ідэалы незалежнасці Беларусі, запаліць увечары 25 сакавіка 1998 года ў вокнах сваіх дамоў свечкі і выставіць бел-чырвона-белыя сцяжкі, як сімвалы памяці, змагання і веры.

## *Дзень добры, паважаная рэдакцыя.*




Вашу газету пачаў чытаць аднosна нядаўна з другога нумара гэтага года, пасля добрай рэкламы ТБМ і самога "НС" у маёй любімай газеце "Наша Ніва". Газета , ваша , мне шчыра кажучы , спадабалася, раней пастаянна купляў , а цяпер падпісаўся.

Быць можа ў "Нашага Слова" ёсць шмат недахопаў, але ёсць і шмат чаго цікавага, чаго чакаем з нецярпеннем і гэта пры тым, што толькі становіцца на ногі, мацнее, з'яўляецца кола аўтараў. Найбольш удала атрымліваецца ў вас знаёміць чытача з "Аповесцю пра словы","З чужой моўнай практыкі" (гэта вельмі карысная рубрыка не толькі для літаратара , але і для звычайнага чытача, бо добра і правільна валодаць беларускаю моваю павінен кожны ГРАМАДЗЯНІН Рэспублікі), а яшчэ з культурным аглядам, палітычнымі падзеямі.

І яшчэ пісалі вы аднойчы, што ёсць у вас план наконт пашырэння аб'ёму газеты, з'яўлення на яе старонках TV - праграммы - гэта канешне ўздыме і наклад і попыт сярод чытачоў. Але не ўсё так проста. Вы бачылі прыклад "Свабоды" (цяперашніх " Навінаў"): якой файнай была газета ў 1994 годзе, калі нават рэклама і тая ж TV - праграмма былі не толькі па-беларуску, а, нават, на "тарашкевіцы" і што сталася з газетай пазьней, калі пагнаўшыся за накладам газета страціла свой стыль, почырк. Канешне цяжка захоўваць стыльнасць калі " фіга ў кішэні працёрла дзірку". Але ёсьць прыклад іншых газет - "Наша Ніва", "Пагоня", можна аднесьці сюды і ЛІМ. Так, што пашырэннем, думаю, трэба пачакаць, пакуль працуйце над тым, каб на гэтых чатырох старонках не было "белых плямаў", каб чытач чытаў нумар ад назвы выдання да прозвішча рэдактара. Так, што творчых вам посьпехаў.

**З павагай Уладзя,**
**студэнт, г. Мар'іна Горка**

## "Наша слова" чытаюць у Канадзе

Газета "Наша слова" карыстаецца ўсё большай папулярнасцю. Менавіта зараз, калі яна стала выходзіць у аднаўленым выглядзе. Тое, што такія выданні патрэбныя і цікавыя, можа, яшчэ не зусім усвядомілі мае суайчыннікі, зацікаўленыя рускамоўнымі газетамі ды чарговымі тэлесэрыяламі. Але ўсё ж такі газета "Наша слова" ўжо знайшла, на маю думку, і свайго чытача, і свайго аўтара. Нядаўна я атрымала ліст ад слыннага беларуса, неардынарнага і цікавага чалавека, беларускага дзеяча, вымушанага больш за пяцьдзесят год жыць удалечыні ад Бацькаўшчыны — Барыса Рагулі.

Падаю вытрымку з ягонага ліста: "Хацеў бы выпісаць "Нашае слова", але не ведаю, як пачаць падпіску. Парадзьце, што рабіць !"

На жаль, у Канаду, дзе зараз жыве спадар Рагуля, па падпісцы "Наша слова" дасланы пакуль што нельга. Але шаноўны спадар Рагуля газету будзе атрымліваць. Кожны тыдзень я дасылаю яму чарговы нумар.

Дарэчы, акрамя таго, што мая сям'я выпісвае гэтую газету, некалькі нумароў мы купляем у шапіках, каб падараваць сваім сябрам, якія яшчэ не ведаюць пра існаванне "Нашага слова". І я ведаю, што гэтак робяць многія мае знаёмыя і сябры. Часта газету даводзіцца шукаць, бо ў некаторых шапіках яна бывае ўжо раскупленай.

Праўда, па статыстыцы "Саюздруку" калі-нікалі выходзіць, што нумароў у шапіках засталося больш, чым было туды завезена. Але гэта - так бы мовіць — парадоксы сучаснага жыцця.

**Лілея Сазанавец, 19 сакавіка 1998 г. г. Ліда.**

## Беларускія рабочыя падтрымліваюць родную мову.

11 сакавіка на Менскім трактарным заводзе адбыўся ўстаноўчы сход суполкі Таварыства беларускай мовы. На сходзе прысутнічалі каля 20 сяброў, а па нашых спісках каля 30. Створаную суполку назвалі "Беларус". Рабочым другіх прадпрыемстваў прапануем падтрымаць наш пачын. На сходзе вырашылі вывучаць родную мову, сапраўдную гісторыю Беларусі, яе культуру, ладзіць экскурсіі, вандроўкі, творчыя сустрэчы і г.д.

Менчан, якія працуюць на МТЗ і падзяляюць нашыя ідэі, любяць Беларусь мы запрашаем запісацца ў нашу суполку. У перспектыве плануем стварыць завадскую Раду ТБМ. Жадаючым запісацца просім тэлефанаваць:

**2-48-49-65**
Старшыня суполкі
Уладзімір Латушкін
**2-30-15-23**
намеснік старшыні
Яўген Максімаў.
***Віталь Базылёў.***

## Перарэгістрацыя працягваецца !

— Магілёўская гарадская Рада — 6 суполак, 500 сяброў.

— Віцебская абласная Рада, у якой перарэгістраваны Рады Верхнядзвінскага, Глыбоцкага, Гарадоцкага, Полацкага, Ушацкага раёнаў, гарадоў Віцебска, Оршы, Полацка, Наваполацка.

## Растуць шэрагі сяброў ТБМ.

Утварылася суполка ТБМ у Уздзенскім раёне пры раённым літаратурным аб'яднанні "Нёманец".

Старшынёй абраны настаўнік Міхась Малашэвіч. Што цікава, на Уздзеншчыне, калысцы многіх беларускіх літаратараў, дагэтуль ніколі не існавала арганізацый ТБМ.

Вітаем адважных пачынальнікаў, жадаем поспехаў на ніве адраджэння роднай мовы.

***Сакратарыят ТБМ імя Ф.Скарыны.***

## Дзень беларускай паэзіі ў Польскім Доме.

15 сакавіка Лідская арганізацыя Саюза палякаў Беларусі арганізавала Дзень беларускай паэзіі. У Лідскі Дом Паляка былі запрошаны мясцовыя аматары і майстры паэтычнага слова. Свае вершы чыталі Станіслаў Суднік, Леапольд Пырскі, Міхась Мельнік, Юры Карэйва, Віктар Бачароў, Іван Гушчынскі. Спяваў бард Сяржук Чарняк. На заключэнне выступіў фальклёрны ансамбль Лідскага педвучылішча пад кіраўніцтвам Ганны Гайдукевіч. Пры поўнай зале беларускае паэтычнае слова і народныя песні панавалі у Доме Паляка больш трох гадзін.

## Весткі з сядзібы ТБМ

13 сакавіка Кастрычніцкая Рада ТБМ і ТБШ правялі сустрэчу з вядомым гісторыкам Міколам Ермаловічам, прымеркаваную да 80-х угодкаў БНР.Прысутнічалі школьнікі, студэнты, рабочая моладзь. Вёў імпрэзу Ян Грыб.

*Закончыўся збор матэрыялаў на конкурс "Беларусь маімі вачыма". Журы прыступіла да аналізу сачыненняў і творчых работ.*

Адбыліся чарговыя паэтычныя сустрэчы ў музеі Я.Купалы. Прысутныя сустрэліся з паэтамі Славамірам Адамовічам і Сяргеем Верацілам. Студэнты Беларускага універсітэта запрасілі літаратараў сфатаграфавацца на памяць.

*У сядзібе ТБМ з-за неаплаты рахунка за элнктраэнергію ЖРЭА Партызанскага раёна без папярэджання адключыла святло. Сакратарыят шукае магчымасць выплаты запазычанасці.*

Сакратарыят атрымаў ліст ад Сяргея Язерскага, актыўнага сябра адмысловага клуба "Спаемства". Аўтар, псіхолаг, запрашае ўсіх жадаючых да размовы, імкнецца падзяліцца сваім досведам работы па праграме пашырэння беларускай мовы ў побытавым жыцці. Тэлефон "Спаемства" для кантакту 235-80-96 г. Менск..

## Ахвяраванні на ТБМ

| | | |
|---|---|---|
| Прадпрымальнікі Маскоўскага р-на г. Менска | - | 2 млн. рублёў |
| Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя "Народная Грамада" | - | 4 млн. 500 тыс. рублёў |
| Баранавіцкая рада ТБМ | - | 1 млн. 500 тыс. рублёў |
| Ж.В.Я. | - | 200 тыс. рублёў |
| Барыс Бароўскі | - | 100 тыс. рублёў |
| В.Ф.Ляшэнка | - | 200 тыс. рублёў |
| С.В.Купрыянава | - | 50 тыс. рублёў |
| Іван Сотнікаў | - | 50 тыс. рублёў |
| С.І.Бабёнка | - | 150 тыс. рублёў |
| Леанарда Мухіна і яе вучні 3 "Г" класа СШ № 37 г. Менска | - | 190 тыс.рублёў |
| Вучні 10 "А" класа СШ № 5 г. Маладэчна | - | 100 тыс.рублёў |
| Алесь Карповіч, Латвія | - | 150 тыс.рублёў |
| Георгі Таразевіч | - | 220 тыс.рублёў |
| Супрацоўнікі Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага універсітэта | - | 1 млн. 600 тыс.рублёў |
| Алесь Сабаленка | - | 200 тыс.рублёў |
| Віктар Сцяпановіч | - | 500 тыс.рублёў |
| Павел Бурдыка | - | 100 тыс.рублёў |
| Уладзімір Шчур, Горкі | - | 100 тыс.рублёў |
| Васіль Петруковіч | - | 100 тыс.рублёў |
| Лія Іванова | - | 100 тыс.рублёў |
| А.Ю. Кahановіч | - | 100 тыс.рублёў |
| Н.В.Гімпель | - | 50 тыс.рублёў |
| С.Ф.Цыбульскі | - | 50 тыс.рублёў |
| С.Ф. Кныровіч | - | 50 тыс.рублёў |
| А.В.Пашкевіч | - | 20 тыс.рублёў |
| Ю.П.Фастовіч | - | 50 тыс.рублёў |
| Васіль Пятруковіч | - | 100 тыс.рублёў |
| Святаслаў Палівода, Маладэчна | - | 400 тыс.рублёў |
| І.В.Фурсовіч, Докшыцы | - | 40 тыс.рублёў |
| К.П.Анісава, м. Свіслач Пух. р-н | - | 50 тыс.рублёў |

Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны выказвае шчырую ўдзячнасць за дапамогу і просіць перасылаць ахвяраванні на рахунак **3015212330014** код **764** у Гардырэкцыі Белбізнесбанка г.Менска.

# БНР мусяць прызнаць і афіцыйныя ўлады Беларусі.

Зараз, калі ўсе свядомыя грамадзяне Беларусі і нашыя суайчыннікі за мяжой святкуюць 80-я ўгодкі БНР, цікава азнаёміць і з думкай на гэты конт сённяшніх прадстаўнікоў прэзідэнтскай каманды.

Нядаўна ў свет выйшаў маленькім накладам вельмі цікавы зборнік калектыва аўтараў начале з ўсім вядомым Іванам Антановічам.

"Знешняя палітыка Беларусі: Зборнік дакументаў і матэрыялаў." Т.1 (1917-1922гг.) (Пастаянная камісія Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па міжнародных справах і нацыянальнай бяспецы. Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь, Беларускі дзяржаўны універсітэт, Беларускі навукова-даследчы інстытут дакументазнаўства і архіўнай справы). Мн.:БелНДІДАС, 1997 - 398 с.

Зборнік уключае дакументы і матэрыялы, якія паказваюць геапалітычнае становішча Беларусі ў перыяд ад Лютаўскай (1917г.) рэвалюцыі ў Расеі да ўтварэння СССР, адносіны суседніх краін і дзяржаў свету да праблемы нацыянальна-дзяржаўнага вызначэння беларускага народа, характарызуюць яго пакутлівы лёс у перыяд рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, нямецкай і польскай акупацый, сведчаць аб намаганнях лідэраў нацыянальнага руху па стварэнні самастойнай і незалежнай Беларускай Рэспублікі.

Прывядзём адтуль цытату прысвечаную падзеям 1917 - 1918 г.г. на Беларусі, якія непасрэдна звязаны з нараджэннем БНР.

*"Палітычная абстаноўка ў Беларусі пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. была складанай і супярэчлівай. Шмат беларускіх нацыянальных арганізацый і іх кіруючых органаў, якія прызналі Савецкую ўладу ў Расіі, не прызналі яе ў Беларусі. Гэта не адпавядала інтарэсам большасці насельніцтва краю, якое ўжо падтрымлівала Савецкую ўладу.*

*Ідэю аўтаноміі Беларусі ў складзе Расійскай дэмакратычнай рэспублікі падтрымаў і Першы Усебеларускі кангрэс (снежань 1917г.). Але ён быў разагнаны, як піша Ю. Туронак, "за яго імкненне стварыць на беларускай зямлі свой, беларускі орган Савецкай улады, замест прэтэндуючых на яе чужых камісараў", якія не прызнавалі беларускай нацыі і яе права на самавызначэнне. Гэта было першае сур'ёзнае сутыкненне бальшавікоў і нацыянальнай апазіцыі, якая змагалася за ўтварэнне беларускай дзяржаўнасці.*

*Разгон кангрэса даў моцны імпульс эвалюцыі ідэі нацыянальнай дзяржаўнасці ад аўтаноміі да ўстаноўкі на поўнае адзяленне ад Расіі. Гэтаму садзейнічалі і іншыя важныя грамадска-палітычныя фактары і абставіны: расійска-нямецкія перамовы, а затым і заключэнне Брэсцкага міру, які вызначыў лёс Беларусі і беларускага народа без уліку іх інтарэсаў і без іх удзелу; абвяшчэнне Украінскай Народнай Рэспублікі, Літоўскай і Эстонскай рэспублік. Развіццё падзей у снежні 1917 - сакавіку 1918 г.г. і асабліва антыбеларуская пазіцыя Расіі і Германіі канчаткова ўпэўнілі кіраўнікоў нацыянальнага руху ў неабходнасці стварэння самастойнай беларускай дзяржавы.*

*Мірныя перамовы паміж дзяржавамі германскага блоку і Савецкай Расіяй, якія праходзілі ў Брэст-Літоўску, мелі непасрэдныя адносіны да лёсу Беларусі. Аднак яе прадстаўнікі не былі дапушчаны на перамовы. Хоць на запыт Усебеларускага кангрэса (снежань 1917г.) аб магчымасці пасланьць сваіх прадстаўнікоў у Брэст Л.Д.Троцкі адказаў, што лёс беларускага народа не будзе вырашацца без уліку яго інтарэсаў. Ён прызнаў паўнамоцтвы ўкраінскай дэлегацыі, але адмовіў беларускім прадстаўнікам ва ўдзеле ў перамовах.*

*3 сакавіка 1918 г. мірны дагавор быў падпісаны на ўмовах, якія прапанавала Германія. Ён фактычна ўзаконіў акупацыю часткі тэрыторыі Беларусі. Яе тэрыторыя была падзелена па лініі Дзвінск-Свянцяны-Ліда-Пружаны-Брэст. Тэрытарыяльныя ўступкі Германіі за кошт Беларусі дазволілі захаваць Савецкую ўладу ў Расіі. Але гэта было і першае значнае паражэнне бальшавіцкага курсу на сусветную рэвалюцыю.*

*Пасля падпісання і ратыфікацыі Савецкай Расіяй Брэсцкага міру ў беларускім нацыянальным руху дамініруючай стала тэндэнцыя да незалежнасці.*

*Важным крокам у яе рэалізацыі з'явілася прыняцце Выканкомам Рады Усебеларускага кангрэса 21 лютага 1918 г. Першай Устаўнай граматы да народаў Беларусі, а 9 сакавіка 1918 г. - Другой Устаўнай граматы, якой абвяшчалася Беларуская Народная Рэспубліка — самастойная, суверэнная дзяржава з шырокімі дэмакратычнымі правамі грамадзян. Трэцяй Устаўнай граматай БНР дэкларыравалася "незалежнай вольнай дзяржавай" і абвяшчалася аб разрыве дзяржаўных сувязей з Расіяй. Гэтым актам выказваўся намер перагледзець умовы Брэсцкага мірнага дагавора ў дачыненні да Беларусі.*

*Такім чынам была абвешчана БНР. Але незалежная, суверэнная рэспубліка абвяшчалася на тэрыторыі акупіраванай кайзераўскай Германіяй. А ў яе планы не ўваходзіла стварэнне ці прызнанне беларускай дзяржаўнасці. У Брэсцкім мірным дагаворы Беларусь як нацыянальны рэгіён нават не ўспаміналася. А па Дадатковым руска-германскім дагаворы, які быў падпісаны 27 жніўня 1918 г., Германія абавязвалася не падтрымліваць "самастойных дзяржаўных арганізмаў" на занятай тэрыторыі і не ўмешвацца ў адносіны паміж рускай дзяржавай і яе асобнымі абласцямі".*

*Пры ўсіх намаганнях урада БНР Германія не прызнала незалежнасці Беларусі. Яе яна разглядала як частку Савецкай Расіі і па ўмовах Брэсцкага міру не магла без згоды апошняй прызнаць Беларускую дзяржаву.*

*У тых умовах многія беларускія дзеячы добра разумелі, што магчымасць існавання рэспублікі ў рашаючай ступені залежала ад Германіі. Таму 25 красавіка 1918 г. частка лідэраў беларускага нацыянальнага руху вымушана была звярнуцца з тэлеграмай да германскага кайзера Вільгельма II.*

*Аднак, як адзначае вядомы даследчык гісторыі беларускай дзяржаўнасці В.А.Круталевіч, палітыка Германіі ў гэтым пытанні далёка не высветлена. Поўнаму аднаўленню карціны беларуска-германскіх адносін 1918 г. дапамогуць нямецкія архівы, якія беларускімі гісторыкамі практычна не вывучаны.*

*У той жа час кіраўніцтва Заходняй вобласці РСФСР працягвала заяўляць аб тым, што толькі яно з'яўляецца законным прадстаўніком і абаронцам інтарэсаў беларускага насельніцтва. Абласны цэнтр не прызнаваў правоў беларусаў на самавызначэнне і стварэнне сваёй нацыянальнай дзяржаўнасці. Хаця да таго часу Расія прызнала правы польскага народа на незалежную суверэнную дзяржаву, былі ўтвораны Украінская, Літоўская, Латвійская і Эстонская савецкія рэспублікі. 1 студзеня 1919 г. абвешчана Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка Беларусь."*



Дзеляць Беларусь.Расейска-нямецкія перамовы ў Бярэсці.

Гэты вялікі урывак з вышэйзгаданага зборніка сведчыць аб тым, што гістарычная праўда, як яе не ўтойвалі бальшавікі зараз паступова прызнаецца ўсімі.

Нават для гісторыкаў улады відавочна, што бальшавікі ад самага пачатку і да самага свайго канца не ўспрымалі ўсур'ёз беларускі народ і Беларусь. Для іх нашая Радзіма заўсёды была разменнай картай у іхніх палітычных гульнях. Выгадна было аддаць немцам — аддалі, выгадна — палякам аддалі. Выгадна - - далі шэсць паветаў, выгадна — дадалі. Далі Беласточчыну — забралі, далі Вільню — забралі і г.д. Усё гэта прыкрывалася камуністычнымі ідэямі, але нарэшце самым заангажаваным палітыкам Беларусі становіцца зразумелым, што гэта быў самы нахабны і паскудны гандаль нашым народам. Праўда нарэшце даходзіць да людзей

Таму я не сумняваюся, што 100-угодкі БНР будзе святкаваць увесь беларускі народ у вольнай, незалежнай, дэмакратычнай і заможнай Беларусі.

***Алег Трусаў,***
***кандыдат гіст. навук***

# Этнічная мова – грунт патрыятызму.

Гуманітарызацыя ёсць адукаванасць, чалавечнасць. Выкладчык прызваны выхаваць патрыёта сваёй Бацькаўшчыны. Беларускі патрыятызм ёсць стыхійная, прыродная, ірацыянальная з'ява. Ён аб'ядноўвае людзей ад калыскі да смерці ў лоне сваёй нацыі на аснове псіхічна-маральных і светапоглядных адносінаў, якія зближаюць сяброў нацыі, яднаюць іх у адзіную вялікую супольнасць. Асноўнымі рысамі беларускага патрыятызму з'яўляецца жаданне жыць на сваёй Бацькаўшчыне, любоў да роднай зямлі, прыхільнае ўспрыманне беларускай культуры, свабодалюбства, павага да чалавека, шанаванне традыцыяў, абрадаў.

Выдзелім два віды беларускага патрыятызму: свядомы і падсвядомы. Падсвядомы або стыхійны патрыятызм гэта любоў да роднай прыроды, сваіх землякоў, мовы, традыцый, звычак. Важную ропю пры гэтым адыгрывае прывычка. Чалавек жыве сярод адпаведнага акружэння, прывыкае да яго так, што лічыць яго сваёй часткай.

Родная мова для любога чалавека з'яўляецца асновай патрыятызму і светапогляду, яна захоўвае і передае традыцыі свайго народа. Натуральна, выхаваўча-вучэбны працэс у ВНУ павінен весціся ў Беларусі на беларускай мове. Беларуская мова для беларуса ёсць самы каштоўны скарб і спосаб самазахавання як інтэлектуальнай асобы. Выдатны педагог К.Ушынскі сцвярджаў, што мова ёсць скарбніца народа, у якой адлюстравана прырода, у асяроддзі якой ён жыве, светапогляд і вера народа. Ён пісаў, што страта мовы для народа раўназначна знішчэнню нацыянальнасці (этнасу). Выбітны філолаг А. Поцебня ў вядомай працы "Мова і мысленне" даказаў, што паміж роднай мовай, мысленнем і псіхікай паводзінаў існуе моцная арганічная повязь. Нават падсвядома любоў беларуса да Беларусі, беларускай мовы выцякае з таго, што беларус арганічна зросся з роднай прыродай, сваімі земляками, сям'ёй, роднымі, суседзямі, з нацыянальнымі традыцыямі, светапоглядамі і боскай першаасновай — роднай мовай.

Для пераходу ад падсвядомага да свядомага патрыятызму неабходна са здаровым гонарам адчуць сваю прыналежнасць да канкрэтнай нацыі і асэнсаванасць адметнае адрозненне ад іншых нацыяў (чым васілёк адрозніваецца ад ружы). Чалавек, які дакладна ведае асаблівыя рысы свайго народа, яго гісторыю, культуру, асэнсаваў неабходнасць вярнуцца і жыць у роднамоўным асяроддзі і ёсць свядомы патрыёт.

Кожны народ, як і асобны чалавек, мае пазітыўныя і негатыўныя рысы, амаль кожны народ мае ў сваёй гісторыі цёмныя яе старонкі. Але сапраўдны патрыёт любіць і бароніць Бацькаўшчыну ў цэлым, а не адварочвацца ад яе толькі таму, што яго народ мае (ці яму знешняй сілай прышчэплены) нейкія негатыўныя рысы, ці дапускаў нейкія памылкі ў сваёй гісторыі.

Выбітны патрыёт не абмяжоўваецца пасіўнай любоўю да свайго краю,народа, да яго сучаснага і мінулага, да яго мовы і культуры. Ён актыўна працуе для свайго народа, прагнучы вярнуць родную мову народу, падняць яго культуру і дабрабыт, перамагчы яго адмоўныя рысы і весці да самаўдасканалення. Ён бароніць гонар Беларусі, калі хто-небудзь ганьбіць яе, і мае сваю адказнасць за сваё прызначэнне. Самаахвярная любоў да Бацькаўшчыны-Беларусі з'яўляецца найвышэйшай формай патрыятызму. Гэта выражаецца ў тым, што чалавек для дабрабыту свайго народа церпіць мукі і нават ідзе на смерць.

Татальная русіфікацыя ўсіх сфераў грамадскага жыцця, разбурэнне беларускамоўнага інфармацыйнага асяроддзя, недапушчэнне на ўзроўні кіраўніцтва дзяржавы беларускамоўнага выкладання ў ВНУ патрабуе назваць беларускую мову галоўнай перашкодай знішчэння беларускай нацыі. Захаванне беларускай мовы неабходна дзеля таго, каб выратаваць беларускі этнас ад рэальнага этнацыду. Мы павінны добра ведаць метады ганебнай палітыкі "раздзяляй і валодай" , прысваення сабе ўсіх каштоўных здабыткаў паняволеных народаў, матэрыяльнага і культурнага рабаўніцтва. Гістарычна найнебяспечнейшыя для беларусаў палітычныя ідэі Расеі: федэрацыі, місіянства Расеі над Беларуссю, адзінства славян, "адзінай першаснай рускай народнасці". Гэта шлях поўнай асіміляцыі беларусаў і знікненне этнасу.

Нацыянальнасвядомая інтэлігенцыя ў Беларусі ў меншасці. Але ж ва ўсе часы развіцця цывілізацыі перамагала меншасць, узброеная перадавымі, прагрэсіўнымі ідэямі. Сіла і моц інтэлігенцыі не ў колькасці, а ў яе якасці. Тая частка інтэлігенцыі, якая прыстасоўваецца да ўмоў духоўнай акупацыі ці антынароднай палітычнай кан'юнктуры, лёгка адракаецца ад сваіх пазіцый. Ядром гетэрагентнасці беларускай інтэлігенцыі з'яўляецца мімікрыя і пятая калона.

Характар і вартасць інтэлігента асабліва яскрава праяўляецца ў канкрэтных справах на пераломах гістарычнага і рэвалюцыйнага працэсу. Ва ўмовах духоўнай рэзервацыі беларусаў у Беларусі нават выкладчыку беларускай мовы і літаратуры, каб быць беларусам (жыць 24 гадзіны ў суткі ў роднамоўным беларускім асяроддзі), патрабуецца мужнасць, а, можна казаць, і подзвіг.

***Прафесар Мікола Савіцкі. 14.03.98г.***





# Госці з паэтычнай Уздзеншчыны.

**Віктар Сабалеўскі**

У сярэдзіне лютага ўтульная зала музея Я.Купалы была асабліва ажыўленай. На чарговыя паэтычныя сустрэчы прыехала група паэтаў літаратурнага аб'яднання "Нёманец" з Узды. Ідэя прыехаць у Менск і выступіць перад аматарамі паэзіі зарадзілася на адным з пасяджэнняў літаб'яднання, а рэалізацыя яе была нескладанай. І вось ужо менчукі акунуліся ў асаблівую пявучасць уздзенскай гаворкі.

Адчувалася хваляванне пачынаючых паэтаў: сталічная зала ўяўлялася патрабавальнай і катэгарычнай. Але ўтульнасць Купалавага дамка, шчырасць слухачоў, добрая ўважлівасць вядучага Генадзя Бураўкіна растапілі халадок адчужанасці і выклікалі адчуванне еднасці. Усіх знітавала любоў да паэтычнай песні, роднага слова.

Вершы Юркі Ясеня (сапр. Міхась Малашэвіч) захапілі разнастайнасцю, шырынёй пачуццяў, узнёсласцю, гумарам. Адчувалася настаўніцкая назіральнасць, досвед працы з людзьмі рознага ўзросту, нязмушаная любоў да сваіх вучняў, павага да людзей сталага веку, гады і здароўе якіх з'ела цяжкая сялянская праца.

Віктар Сабаленка, намеснік рэдактара раённай газеты, запаланіў слухачоў сваімі гумарыстычнымі і сатырычнымі вершамі. Такога рогату, відаць даўно не чулі гэтыя сцены, прывычныя да лірычнай споведзі. Героям сваіх вершаў Віктар шукае ў нашым жыцці — растрэсеным, няўклюдным, і рабілася страшнавата: як жа шмат іх, гарлапаністых, хамаватых, хцівых, недалёкіх, каля нас.

Прыемна здзівіў усіх Віктар Кіслы, прыватны прадпрымальнік. Відаць, калі людзі гандлёвай сферы жывуць у палоне паэтычнага радка, хай сабе і расейскай мовы, то не так блізка яшчэ і прызямлене Беларусі на чорную выспу бездухоўнасці. Вершы Віктара захаплялі, зачароўвалі, але, як сказаў Генадзь Бураўкін, Беларусь мае шмат паэтаў, хто піша па-расейску, але ніхто з іх не стаў Паэтам, бо самазямля наша ёсць і калыска, і крыніца роднага слова, і яна ўзносіць абраных дачок і сыноў да недасяжных вышынь яго.

Сярод выступоўцаў было шмат настаўнікаў, і гэта дало спадзяванне, што іх вучні, сагрэтыя неабыякавасцю, чуласцю радка настаўніцкага верша панясуць у жорсткі свет моцу ўлагоджанасці і дабрыні. Якраз пра гэта думалася, калі гучалі вершы Зінаіды Жукоўскай і Валянціны Рогач. У нечым адметныя, чымсьці падобныя, яны неслі асаблівую пяшчоту жаночай лірыкі.

І ўжо, калі здавалася, вяршыні ўсе пакораныя, калі нават самі ўзденцы — і школьніцы, і сталыя — былі ў захопе ад незвычайнага гучання прывычных радкоў на сталічнай сцэне, залу ўскалыхнуў прыгожы, з нейкімі асаблівымі тужліва-светлымі пераліvамі голас Зоі Калкоўскай. Яна спявала пра сінія вочы Беларусі, пра шчымлівую любоў да людзей яе, пра рэальнае і нязведанае. І гэты нечакана цудоўны спеў узняў залу ў адзіным парыванні слухаць і слухаць музычны маналог госці з паэтычнай Уздзеншчыны.

І не хацелася нам, гараджанам, развітвацца, не хацелася адрывацца ад цудоўнай, натуральнай, вясковай гамонкі нашых гасцей, што прывезлі з палёў уздзенскіх глыток нашага слова, настоенага на жытнёвых каласах, прапахлага смалой і кменам. Таму і развітанне было спадзяванкай на сустрэчы. І гэтае чаканне спраўдзілася. Ужо праз некалькі тыдняў мне патэлефанаваў Міхась Малашэвіч і паведаміў, што створана суполка Таварыства беларускай мовы, у якую ўвайшлі ўсе сябры літаб'яднання "Нёманец". І стала светла на душы, што яшчэ адна жменька высакародных і ўлюблёных у наша слова засеялася на нашай ніве.

*Людміла Дзіцэвіч, наместнік старшыні, сакратар ТБМ.*

**Юрка Ясень**

### Я думаю...

Я думаю, якія трэба сілы  
Каб сёння жыць,  
Калі Чарнобыль апасхылы  
Атруту запускае ў жылы —  
Жывымі пачынаем гніць.

Я думаю, якія трэба сілы,  
Каб так трываць  
Хоць за капейку рвём мы жылы  
Адной нагой ужо ў магіле,  
А "дзякуй" хочацца казаць.

Я думаю, якія трэба сілы,  
Каб жыць сляпым  
Штодзень скрыпець,  
як крыж пахілы,  
Вяроўкі з нас, народзе мілы,  
Ўюць, каб звязаць вузлом адным.

Я думаю, якія трэба сілы,  
Каб жыць нямым  
Мо языкі папрыкусілі  
Мо кроў крывіцкую прапілі  
А мо ўжо гэта і не мы?

### ЧАМУ ТАК БЫВАЕ ?

Чаму, скажыце, так бывае  
На гэтым свеце, крыху дзіўным:  
Сябры прыходзяць і знікаюць,  
Нам пакідаючы ўспаміны,  
Ну а ўсялякае брыдоцце  
Мазоліць вочы ўсім гадамі,  
Хоць часам дома, на рабоце  
І называюць іх "сябрамі"?

Чаму сумленных, шчырых, простых  
Так дружна ўсе дзяўбуць і чубяць,  
А падхалімаў ды прахвостаў  
У важных кабінетах любяць ?  
Чаму , не маючы улады —  
Ён чалавек, як чалавек,  
Але, дабіўшыся пасады,  
І над сябрамі творыць здзек ?

Ці не таму вось і жывецца  
Нам з кожным годам усё горш:  
Той паміраe, той — сап'ецца,  
Апошні выкінуўшы грош.  
А іншы думае: навошта  
Я буду лезці на ражон ?  
Лепш стану жыць я ціха, проста,  
Пакуль не пруць з работы вон.

Таму не дзіўна, што смяюцца  
Суседзі з браткі-беларуса,  
Гамоняць так: "Глядзіце, людцы,  
Назад ён пнецца без прымусу,  
Старых багоў навыбіралі,  
З былых кагорт — кіраўнікі.  
Чаго хацелі прычакалі,  
І лёс вам суджаны такі..."

**Зінаіда Жукоўская**

* * *

Зноў вяртаюцца дадому гусі  
З тых далёкіх чужых краін  
На прасторы мілай Беларусі,  
Да лясоў, рачулак і рабін...

І садзяцца на лугі ў знямозе,  
Прывітанне шлюць сваёй зямлі,  
А яна да іх ідзе ў трывозе,  
Птушкі гэта ведаць не маглі.

Родная замелька стогне, плача, —  
Яе смог чарнобыльскі накрыў.  
Пэўна, Бог нас пакараў, няйначай,  
Нашу радасць кінуў пад абрыў.

Столькі ранаў у зямлі балючых !  
Столькі горкіх і жахлівых сноў !  
Лекар - час, дай зёлкаў ёй гаючых,  
Падбяры замову з добрых слоў.

Сэрца, не трымці ,не плачце, вочы !  
Божа міласцівы, памажы !  
І няхай трывога дні і ночы,  
Не стаіць сурова на мяжы !

Каб вярталіся дадому гусі,  
Плывучы над квеценню садоў,  
І прасторы роднай Беларусі  
Іх заўсёды вабілі дамоў !

# АПОВЕСЦЬ ПРА СЛОВЫ

## Тытунь, табака, махорка, люлька.

Не выключана, што слова ***тытунь***, альбо ***тытун***, трампіла на Беларусь праз украінскую мову, дзе яно гучыць як ***тютюн***. Але слова ***тытунь*** ёсць і ў балгарскай мове, і ў іншых славянскіх мовах Балканаў. Трапіў сюды тытунь ад туркаў і назва яго ***цюцюн*** прыйшла разам з ім. Адкуль і як слова ўзялося ў туркаў нам знайсці пакуль не пад сілу.

Тлумачальны слоўнік беларускай мовы вызначае, што тытунь не толькі расліна сямейства паслёнавых, але : "высушанае і дробна парэзанае лісце і сцёблы гэтай расліны, якія ідуць на курэнне". Прычым у якасці прыкладаў філолагі прыводзяць "люльку набітую тытунём".

Слова ж ***табак*** прайшло іншы шлях. Табак разам са сваёй індзейскай назвай трапіў Іспанію ў 1518 годзе пасля адкрыцця Амерыкі. Адтуль ён пайшоў па Еўропе. Па-французску гэтае слова гучыць, як ***tabac***, па-нямецку-- ***der Tabak***, па-польску -- ***tabak*** і ***tabaka***. З Польшчы табака пранікла на Беларусь, а пад час расейска-ліцьвінска-польскай вайны 1634 года пранік у Расею. Розумазаключэнні накшталт таго, што слова ***табак*** пранікла да нас з расейскай мовы не маюць падставаў.У першым, асноўным сваім значэнні, табака вызначаецца як "парашка-падобны тытунь для нюхання". З гэтым словам звязана беларуская прымаўка "Ні за нюх (панюх,панюшку) табакі".

Звычка нюхаць тытунь пашыралася на Беларусі ў другой палове XVIII ст., у часы раздзелаў Рэчы Паспалітай, калі тэрыторыя Беларусі была пастулова анексавана Расеяй.

Пазней з Францыі да нас трапіла і іншая расліна "нікатына рустыка", ніжэйшы гатунак тытуню. Далікатным французам гэты гатунак тытуню не падабаўся і яны



Менскія люлькі XVII - пачатку XVIII ст.ст.

казалі пра яго: *amer fort (амэр фор)*, што азначае горка-моцны. Назва *"амарфорны тытунь"* хутка ператварылася ў нас у ***"махорны тытунь"***, а затым у *махорку*.

Цалкам верагодна, што ў XVII ст. украінскія казакі прынеслі на Беларусь не толькі слова ,***тытунь***, але і чырвонагліняныя люлькі, і само слова ***люлька***, бо па-украінску гэтае слова гучыць так сама, па-балгарску -- ,***лула***, ну а ўжо на турэцкае гучанне выбачайце.

Люлька — выраб, які прадназначаны для курэння тытуню. Люлькі выраблялі з гліны, косці і выразалі з дрэва. На тэрыторыі Беларусі вядома з канца XVI-пачатку XVII ст.ст. Першыя люлькі завозіліся на Беларусь з краін Заходняй і Паўднёвай Еўропы (Галандыя, Бельгія, Турцыя і інш.). Разам з капшуком люлька складала частку мужчынскага традыцыйнага народнага адзення беларусаў. Часцей за ўсё люлькі выраблялі з гліны ў спецыяльных двухчастных раз'ёмных формах, альбо выразалі з кавалка гліны сцізорыкам, ці фармавалі іх на ганчарным крузе.

Люлька складаецца з дзвюх частак — галоўкі, або тулава — полага цыліндрычнага, скругленага знізу (каб было зручна трымаць у руцэ) і цэўкі (муштук) з гняздом для цыбука. Места для тытуню — місачка злучана з гняздом для цыбука маленькім, да 4 мм. у дыяметры прахончыкам. Памеры люляк па вышыні ад 3,5 да 6 і болей см. У ХУІІ — ХУІІІ стст. з'яўляецца некаль тыпаў люляк: 1 — чырвона-гліняныя, аздобленыя раслінным узорам ("валовае вока", кветачкі, ялінкі, галінкі і г.д.); 2 — дымлёныя, або "сівакі"; 3 — паліваныя, пераважна зялёнага, або светла-карычневага колераў; 4 — галанскія, белагліняныя люлькі з доўгай цэўкай яйкападобнай галоўкай і невялікай ножкай ўнізе галоўкі.

З сярэдзіны ХУІІ ст. люлькі пачынаюць рабіць з гліны больш светлых таноў і нарэшце з фаянсу і каменнай масы. Аздабленне штампікам паступова адмірае, а паверхня люлькі глянцуецца. Рэльеф мае як традыцыйныя геаметрычныя, так і раслінныя матывы. Люлькі рабіліся таксама ў выглядзе звяроў і зрэдку мелі антрапаморфны характар. На некаторых люльках, асабліва імпартых трапляюцца клеймы.

**Собаль В., Трусаў А., кандыдаты гістарычных навук.**


**Часовы выканаўца абавязкаў рэдактара Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.

*Рэдакцыйная рада:*
Генадзь Бураўкін — старшыня,
Людміла Дзіцэвіч, Сяргей Запрудскі,
Аляксей Пяткевіч, Аляксей Рагуля,
Аляксей Саламонаў, Павел Сцяцко,
Алег Трусаў, Эрнэст Ялугін.

*Аўтары нясуць поўную адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі.*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Гродзенскага аблвыканкама.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове.Газета падпісана да друку 23. 03. 98 г.
Наклад 3500 асобнікаў. Замова № 850 .
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 12 000 руб., 3 мес.- 36 000 руб.